БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ "ЧЗ" ЗМЕНА

26 ліпеня 1994 г.
Аўторак
№ 81 (13798)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года


Малюе Віктар ДУБОВІК





27 ліпеня — Дзень незалежнасці Беларусі.

## Кур'ер "ЧЗ"

### З нагоды свята

*Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прыняў зварот да суайчыннікаў з нагоды Дня незалежнасці.*

У ім, у прыватнасці, гаворыцца: "Чатыры гады назад Вярхоўны Савет прыняў дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. У тым, што адбылося 27 ліпеня 1990 года, ёсць свая гістарычная справядлівасць. Ідэя незалежнасці — дзяржаўнай, палітычнай, нацыянальнай — мае на Беларусі тысячагадовую гісторыю". У дакуменце падкрэсліваецца, што цяпер "ёсць магчымасць забяспечыць устойлівае развіццё сваёй эканомікі, павысіць узровень абароны правоў і свабод чалавека, гарантаваць дастойны спосаб жыцця ўсім сваім грамадзянам".

**(Ул.Інф.).**

### Указы на "купюравым" фоне

*Першы беларускі прэзідэнт прыступіў да выканання абавязкаў. Тэлетайпныя стужкі, а за імі і газеты, "нясуць" у народ тэксты ўказаў. Аляксандр Лукашэнка падпісвае ў асноўным "кадравыя паперы". Фарміруюцца прэзідэнцкія структуры і ўрадавы кабінет — усё зразумела. Насцярожвае іншае.*

Пачатак актыўнай прэзідэнцкай дзейнасці дзіўна супадае з ледзь не штодзённым павышэннем цэн на тавары і паслугі. Хаця дзіўна, бадай, толькі на павярхоўны погляд. Вядома, такое "супадзенне" можна тлумачыць па-рознаму. Лагічна дапусціць, што падаражанне жыцця сярэднестатыстычнага выбаршчыка звязана з павышэннем памераў мінімальнай заработнай платы, якую, дарэчы, павысіў стары ўрад. Яшчэ больш лагічным падаецца наступнае: урад Кебіча, выдаткаваўшы ўсе наяўныя бюджэтныя магчымасці і сродкі, прыгожа пайшоў. Хай яму і не ўручылі пры развітанні на сесіі букет ліпеньскіх руж, але ж і цярновы вянец ніхто з былых высокапасадных правіцеляў не прымяраў. Цяпер распачалося закладзенае пад час выбарчай кампаніі паніжэнне "рэйтынгу" разліковых білетаў Нацыянальнага банка Беларусі. Калі так пойдзе і далей (амаль да кожнага прэзідэнцкага ўказа прымяркоўваецца "данайскі дарунак" айчыннага гандлю-сервісу), народ хутчэй, чым чакалася, пачне ўспамінаць стары ўрад і развітальныя словы Вячаслава Францавіча з вядомай заявы. Асабліва нявыгадным для прэзідэнта гэткае развіццё падзей становіцца з улікам таго, што ў новым урадзе застаецца шэраг старых фігур. Прынамсі, яны і павінны былі б, у першую чаргу, паўплываць на сітуацыю і хаця б крыху адцягнуць у часовым вымярэнні "купюравую ліхаманку" ад прэзідэнцкага старту.

**Якаў ЯСЭПКІН.**

### Чарнобыль і здароўе нацыі

*У Нацыянальным прэс-цэнтры Рэспублікі Беларусь адбылася чарговая прэс-канферэнцыя з прадстаўнікамі Дзяржкамчарнобыля і навукова-даследчага інстытута радыяцыйнай медыцыны. На гэты раз гаворка вялася пра здароўе беларускай нацыі.*

Краіна аб'яўлена зонай нацыянальнага бедства. У Гомельскай, Магілёўскай і Віцебскай абласцях зарэгістраваны адмоўны прырост насельніцтва. Увогуле, па нашай рэспубліцы назіраецца вельмі высокі рост захворвання ракам шчытападобнай залозы ў дзяцей. Для параўнання, на Беларусі — 2,7 працэнта захворвання на 100 тысяч дзяцей, а ў краінах Еўропы — 0,5 працэнта. За перыяд з 1986 па 1992 год зарэгістравана 147 выпадкаў раку шчытападобнай залозы ў дзяцей. На сённяшні дзень гэта лічба ўзрасла да 279.

У апошні час рэзка памяншаецца колькасць абсалютна здаровых дзяцей. Усё больш і больш дзяцей інвалідаў. Іх зараз па рэспубліцы налічваецца 15245 чалавек. Прычым, з хваробамі многіх устаноўлена прамая сувязь з чарнобыльскай катастрофай. Пры дыспансерызацыі дзяцей шасцігадовага ўзросту хранічная паталогія выяўляецца больш чым у 4 працэнтаў дзяцей, каля 24 працэнтаў — маюць супрацьпаказанні да навучання з шасцігадовага ўзросту.

Менавіта ў такі складаны час спынена дзейнасць НДІ радыяцыйнай медыцыны, што ў Аксакаўшчыне. Яго надумалі ператварыць у НДІ эндакрыналогіі і абмену рэчываў. Атрымліваецца, што інстытут, які займаецца, і, прычым, вельмі эфектыўна, усімі праблемамі радыяцыйнай медыцыны, замяняюць на вузкаспецыялізаваны. Як працяг рэакцыі — замарожваецца будаўніцтва вялікага аддзялення для хворых дзяцей і іх бацькоў, хірургіі шчытападобнай залозы, спецыяльнага корпуса для даследаванняў і дыягностыкі. На гэта будаўніцтва ўрадам ужо выдзелена на 1994 год 5 мільярдаў рублёў, і ўсё стала раптам непатрэбным.

**Святлана КУЛІКОВА.**

### Да "Залатога пеўня" недапелі...

*Сёння ў Віцебску, у Амфітэатры вялікім Гала-канцэртам закрываецца III Міжнародны фестываль "Славянскі базар". Дзевяць "базарных" дзён, што сабралі разам прадстаўнікоў трынаццаці народаў, далі цікавую магчымасць віцябчанам і шматлікім гасцям сустрэцца з галоўнай гераіняй фестывалю — славянскай песняй.*

На фестывалі традыцыйна былі наладжаны Дні нацыянальных культур. У нядзелю свой дзень адзначала беларуская дэлегацыя. Шматлікія фальклорныя калектывы, народныя ўмельцы дэманстравалі сваё майстэрства, на розных пляцоўках Віцебска. А ў Беларускім акадэмічным тэатры імя Я.Коласа, дзе размясціўся Цэнтр нацыянальных культур, прайшоў эстрадны канцэрт "Я — артыст" з удзелам маладых беларускіх выканаўцаў. Шкада, але канцэрт гэты, шчыра кажучы, не атрымаўся: відавочна слабы склад удзельнікаў зусім недарэчы "арганічна" дапоўнілі і тэхнічныя недахопы.

25-годдзе сваёй творчай дзейнасці адзначылі ў нядзелю "Песняры". З аншлагам прайшоў іх канцэрт у зале Летняга амфітэатра. Ну, а ўвечары Уладзімір Мулявін запрасіў сваіх сяброў на банкет, дзе, дарэчы, дзесяціхвілінна браў удзел Мечаслаў Грыб і паўгадзінна — Ала і Філіп.

Безумоўна, для канкурсантаў самым хвалюючым момантам "Базару" сталі вынікі іх песеннага спаборніцтва. Гран-пры — "Залаты Певень" — вырашана не прысуджаць. І прэмія засталася за спеваком з Сербіі Шчэпай, дзве другія — у Тэоны (Грузія) і Аляксандра Панамарова (Украіна). Трэція прэміі не прысуджаліся, а тры заахвочваючыя дасталіся Ганне Йопэк (Польшча), Марцэле Малнаравай (Славакія) і расіяніну Андрэю Дунаеву. За арыгінальную трактоўку песні журы адзначыла спецыяльным прызам Ганну Йопэк. Яе ж адзначылі сваім спецыяльным прызам і журналісты.

Што тычыцца масье Леграна, які і абвяшчаў вынікі, то, на яго думку (але не з яго слоў) конкурс даў вельмі сціплае ўяўленне пра славянскую песню. Як прызнаўся маэстра Легран членам журы, усё гэта ён чуў прыкладна дзесяць год таму. А любы конкурс (і тут масье Легран, безумоўна, мае рацыю) павінен рабіць адкрыцці. А з гэтым у "Славянскага базару" пакуль адны праблемы.

**Майя ШЭНДРЫК.**

### І ты, Брут?

*Былы прэзідэнт былога СССР Міхаіл Гарбачоў выступіў у прамым эфіры тэлебачання канала "Астанкіна" ў папулярнай праграме Уладзіслава Лісцьева "Гадзіна пік".*

Ён вельмі негатыўна ахарактарызаваў рэформы цяперашняга кіраўніцтва, падкрэсліўшы неабходнасць "ракіроўкі" ў верхніх эшалонах улады. Паводле думкі Гарбачова, многія расійскія сродкі масавай інфармацыі "абслугоўваюць" рэжым, хаваючы ад народа праўду. На пытанне, чаму пасля прыходу ў "Астанкіна" бліжэйшага паплечніка Міхаіла Сяргеевіча Аляксандра Якаўлева экс-прэзідэнт па-ранейшаму амаль не мае магчымасці выступаць з тэлеэкрана, Гарбачоў заўважыў, што гэта можна растлумачыць адным: Якаўлеў пры трэцім рэжыме ўзначальвае "агітпроп".

**(Ул.інф.)**

### Курсы валют на 25 ліпеня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 27580 | 28300 | 17730 | 18200 |
| "Прыор" | 27500 | 28000 | 17600 | 17950 |
| "Пошук" | 27450 | 28350 | 17700 | 18190 |

ЭКСКЛЮЗІЎ "ЧЗ"

## Міхаіл САЗОНАЎ: "Татальнага сачэння не будзе"

### Але карумпіраваным чыноўнікам прыйдзецца развітацца з высокімі пасадамі

*Наш субяседнік — асоба яшчэ малавядомая на палітычным Алімпе. Скажам, што Міхаіл Юр'евіч Сазонаў пачаў працаваць у камандзе Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі яшчэ тады, калі і размовы аб прэзідэнцтве на Беларусі многімі ўсур'ёз не ўспрымаліся. Сумесная дзейнасць будучага прэзідэнта і афіцэра МУС пачалася ў часы існавання антыкарупцыйнай камісіі Вярхоўнага Савета. Для Міхаіла Сазонава гэта супрацоўніцтва ўвянчалася не лаўрамі. Ён быў звольнены з пасады начальніка ўпраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю МУС Беларусі. Фармальная прычына — парушэнне дысцыпліны, фактычная — адмова пакінуць работу ў антыкарупцыйнай камісіі пад кіраўніцтвам Аляксандра Лукашэнкі. М.Сазонаў — самы малады з калі-небудзь займаўшых такую адказную міліцэйскую пасаду. Быў арганізатарам буйных аперацый па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю ў маштабах рэспублікі. Доўгі час займаўся непасрэднай арганізацыяй збору подпісаў у падтрымку Лукашэнкі. На пасадзе эксперта антыкарупцыйнай камісіі вёў работу па праверцы і пошуках кампраметуючых матэрыялаў на вышэйшых службовых асоб. У якой якасці ён знаходзіцца ля прэзідэнта зараз? З гэтага пытання і пачалася наша размова.*

– Прэзідэнт і будучы галава прэзідэнцкай адміністрацыі вырашылі, што я і мае таварышы, з якімі мы працавалі ў антыкарупцыйнай камісіі (а гэта Юрый Малумаў і Мікалай Карпіевіч), павінны працаваць у адміністрацыі прэзідэнта. Як юрыдычны факт гэта структура яшчэ не ўтворана, ідзе падрыхтоўчы перыяд, мы распрацоўваем дакументы і палажэнні па шэрагу службаў адміністрацыі, у тым ліку ў ёй будзе ствараца камітэт па барацьбе з карупцыяй у органах дзяржаўнай улады і ўпраўлення. Мяркуецца, што мы будзем працаваць там.

**— Трэба думаць, што матэрыялы, напрацаваныя антыкарупцыйнай камісіяй Вярхоўнага Савета, атрымаюць сваё лагічнае завяршэнне ўжо ў новым антыкарупцыйным камітэце?**

– Большасць з іх ужо маюць юрыдычны працяг. Узбуджаны цэлы шэраг крымінальных спраў. Але справа не толькі ў гэтым. А.Лукашэнка ў сваіх выступленнях не зводзіў справу да крымінальнага праследавання "заплямленых" службовых асоб. Асноўныя яго прапановы былі аб зняцці з пасад некаторых высокапастаўленых чыноўнікаў за тое, што яны паразвальвалі свае галіны, за тое, што па напрамках, якія яны курыравалі, рабілася бязладдзе. Менавіта гэтыя праграмныя моманты прэзідэнта і ўвязаны з будучай дзейнасцю антыкарупцыйнага камітэта, які ствараецца ў адміністрацыі.

**— Відавочна, сёння ўжо можна гаварыць аб пэўнай канцэпцыі, на якой будзе будавацца работа камітэта?**

– Так, мы маем такую праграму. І зыходзім з таго, што без падаўлення карупцыі немагчыма вырашаць іншыя праблемы. Сённяшні дзяржаўны апарат да такой ступені карумпіраваны ў нашым разуменні, што праблематычным становіцца выкананне прыярытэтных праграм дзяржавы.

Тут трэба вызначыцца, што мы разумеем пад словам "карупцыя". Гэтаму паняццю ёсць дзве трактоўкі. Агульнапрынятая – подкуп. Але ёсць і лацінскае тлумачэнне, як псота. Дык вось, адпаведна з другім варыянтам, наш дзяржаўны апарат сапсаваны і не працуе. Мы зусім не лічым, што ўсе чыноўнікі – злачынцы. Яны сапсаваныя як спецыялісты і не выконваюць сваіх функцый на карысць дзяржавы: і таму, што не ўмеюць, і таму, што не хочуць. Такім чынам, карупцыя, у нашым разуменні, – гэта дзеянні чыноўніка не на карысць грамадству. Напрыклад, звычайнаму чалавеку ўсё роўна з-за чаго была нанесена шкода дзяржаве: з-за таго, што чыноўнік браў хабар за нейкую паслугу ці з-за таго, што ён няправільна разумее сваю задачу. Нам, у прынцыпе, няважна: будзе такая асоба сядзець у турме ці не, нам важна, каб яна не займала высокае крэсла і не рабіла шкодных дзеянняў. Вось у чым заключаецца наш падыход да самога паняцця "карупцыя".

**— Якія ж дзеянні можа прадпрыняць антыкарупцыйны камітэт супраць гэтай з'явы?**

– Цяпер на ўсіх чыноўніцкіх узроўнях такіх рашэнняў не на карысць дзяржавы прымаецца шмат. І адзінкавыя выпадкі, калі вінаватых звальняюць з работы, хаця з'ява масавая. Мы маем намер строга патрабаваць ад тых, хто шкодзіць справе.

**— Але як гэта зрабіць практычна?**

– Канешне, нерэальна панаставіць кантралёраў ля кожнага. Гэта тупіковы шлях, які не спрацуе. Аднак мы хочам узяць пад кантроль вышэйшых чыноўнікаў, ад якіх шмат што залежыць. Кантроль стане ажыццяўляць наш антыкарупцыйны камітэт. Заўважу, што ў яго складзе будзе працаваць невялікая колькасць высокіх прафесіяналаў, максімум – чалавек 15. Але гэтыя людзі здолеюць правільна паставіць задачы перад праваахоўнымі і кантралюючымі ведамствамі і забяспечыць строгі кантроль.

Цяпер жа чыноўнікі ўвогуле бескантрольныя. Скажыце, ці можа раённая ўлада, мясцовая міліцыя, пракуратура прыцягнуць да адказнасці, напрыклад, старшыню райвыканкама? Такія выпадкі надзвычай рэдкія. Таму антыкарупцыйны камітэт і знаходзіцца ў адміністрацыі прэзідэнта, каб не было недатыкальных асоб.

Натуральна, ніхто не збіраецца наладжваць татальнае сачэнне і ўсіх пагалоўна адпраўляць у турму. Размова ідзе аб тым, каб людзі, якія не могуць ці не хочуць працаваць, або працуюць, кіруючыся карыслівымі памкненнямі, вызвалялі свае службовыя крэслы. Калі далей будзе даказана, што яны ўчынілі службовае злачынства, – іх далейшае месцазнаходжанне вызначыць суд.

Успомніце, што адбываецца на Захадзе, калі чалавека абвінавачваюць у карупцыі? Ён адразу ідзе ў адстаўку.

Павышэнне патрабаванняў да чыноўніка – гэта першы аспект нашай праграмы. І ён мае на ўвазе не столькі крымінальную адказнасць, а хутчэй дысцыплінарную.

**— Ёсць і другі аспект?**

– І другі, і трэці. Мы маем намер трымаць пад кантролем і абараняць тыя дзяржпраграмы, якія будуць асноўнымі ў сацыяльна-эканамічным развіцці рэспублікі, каб яны не былі сарваны з-за праяўлення карупцыі ў чыноўніцкай структуры, якая будзе займацца выкананнем гэтых праграм.

**— А якія дзяржпраграмы будуць асноўнымі?**

– Прыярытэты вызначыць прэзідэнт.

**— Вы сказалі, што ў дзейнасці антыкарупцыйнага камітэта ёсць і трэці аспект...**

– Так. У нас будзе і работа, звязаная з заканатворчасцю. Цяперашняе заканадаўства адстала ва ўсіх сферах. Мы лічым вельмі важным наладжванне ў камітэце антыкарупцыйнай экспертызы прымаемых законапраектаў, каб не атрымалася, што новыя законы змогуць пацягнуць за сабой павелічэнне карумпіраванасці чыноўнікаў.

Мы маем і канчатковую мэту. А менавіта, хочам накіраваць працэсы на тое, каб работа дзяржапарату перайшла з рэжыму дазваляльнага ў рэжым рэгістрацыйны. Зараз чыноўнік вырашае, напрыклад, можна адчыніць магазін ці не. І за станоўчы адказ у яго ўжо быццам бы і ёсць прычына атрымаць хабар. Заканадаўства ў гэтым сэнсе павінна быць урэгулявана. Тады рэзка звузіцца магчымасць для праяўлення карумпіраваных дзеянняў. Гэты пераход упаўне магчымы і рэальны.

**— Ці прадугледжваеце вы супраціўленне чыноўніцкіх структур, якія кіравалі да сённяшняй прэзідэнцкай улады?**

– Мы гэта прадугледжваем. Але я зыходжу з таго, што пераважная частка дзяржапарату – гэта сумленныя людзі. Яны проста пастаўлены не ў тыя ўмовы і часта вымушаны былі займацца не тым чым трэба. Разумеючы, што будзе супраціўленне, мы спадзяёмся на падтрымку прэзідэнта і на дастатковыя паўнамоцтвы яго адміністрацыі. Безумоўна, прадбачыцца сур'ёзная работа і зразумела, што гладкай дарогі не будзе.

**Гутарыла Вольга ШАЎКО.**

"Уорлднэт" — "Еўраньюс" — "Суперчэннэл" — "TV-5"

### "ЦЕМНЫ" БОК ЮПІТЭРА – У АГНІ

*Планету Юпітэр "бамбардзіравалі" фрагменты каметы Шумейкера-Леві.*

Адзін з "бацькоў" каметы Юджын Шумейкер вылічыў, што аб'яднаная сіла выбухаў роўная прыкладна 40 мільёнам мегатон трынітраталуолу. Толькі 1 мільён мегатон у 100 разоў перавышае ўсе ядзерныя запасы на Зямлі. Ад месца касмічнай катастрофы мы знаходзімся ў 5 разоў далей, чым ад Сонца. Адбылася яна на "цёмным" баку Юпітэра, нябачным цяпер з нашай планеты.

### ЦРУ І XXI СТАГОДДЗЕ

*Амерыканская разведка не з'яўляецца "марнай рэліквіяй часоў "халоднай вайны". Аб гэтым заявіў дырэктар ЦРУ Джэймс Вулсі, выступаючы ў Цэнтры стратэгічных і міжнародных даследаванняў.*

Шэф ЦРУ адзначыў, што выкрыццё Олдрыча Эймса, які на працягу многіх гадоў супрацоўнічаў з савецкай, а потым расійскай разведкай, стала "каталізатарам праўдзення наспелых змен". Яны памогуць ЦРУ "вырашыць праблемы ў сферы бяспекі на парозе надыходзячага стагоддзя".

### ШЛЮБ ПА-ДАМІНІКАНСКУ

*Дамініканскі суддзя, які аб'явіў аб вяселлі Майкла Джэксана і дачкі Элвіса Прэслі Ліз-Мары, збіраецца распачаць судовы працэс супраць іх.*

Хьюга Альварэс Перес гаворыць, што адмаўленне факта шлюбу Джэксана і Ліз-Мары нанесла вялізны ўрон яго прафесійнай рэпутацыі. Ён выступіў з прапановай выкарыстаць дэтэктар хлусні, каб даказаць, што мае рацыю. Калі верыць суддзі, вясельная цырымонія прайшла ў адным з гарадоў Дамініканскай Рэспублікі 26 мая.

### "СПІЛБЕРГАЎСКАЯ" РЭВАЛЮЦЫЯ

*Вядомы амерыканскі рэжысёр Стывен Спілберг аб'явіў аб новай тэхналогіі стварэння фільмаў, якая з'явіцца сапраўды рэвалюцыйнай падзеяй у кінематографе.*

Прымяненне спецэфектаў і новай тэхналогіі дасць магчымасць гледачам нібыта самім удзельнічаць у карціне, не проста глядзець на плоскі экран, але быць у гушчыні дзеяння.

### "КАСМІЧНЫЯ МУЗЫКАНТЫ"

*Шэсць амерыканскіх астранаўтаў арганізавалі музычную групу і выканалі 11 сваіх песень у хьюстанскім кафе "Хард рок".*

"Касмічныя музыканты" паспелі таксама пісаць і першую касету "Адпраўленне на есяц". Канцэрт быў прысвечаны 25-годдзю садкі першага чалавека на Месяцы.

### ПРЭМ'ЕРА ПРАЗ ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ

*Нарэшце атрымана згода музыкантаў "Ролінг Стоўнз" на паказ фільма "Цырк рок-н-рола", які здымаўся яшчэ ў 1968 годзе.*

Гэта — дакументальная стужка, у ёй дзейнічаюць куміры моладзі таго часу — "ролінгі". Хутчэй за ўсё, фільм будзе дэманстравацца пад час музычнага фестывалю ў канцы года.

### ...І СЁННЯШНІ ДЗЕНЬ ЛЕГЕНДЫ

*У Канадзе прайшоў канцэрт легенды рока гурта "Ролінг Стоўнз" перад тысячнай аўдыторыяй.*

Білеты каштавалі па 5 даляраў. Фанам давялося прастойваць у чарзе па 9 гадзін. Канцэрт працягваўся 85 хвілін, музыканты выканалі 16 песень, з якіх 5 — з новага альбома, а астатнія — старыя хіты.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ!"


Дзяжурныя па выпуску перакладчык Андрэй СІДАРАЎ, рэдактар Якаў ЯСЭПКІН.



**Бізнес-клас**

Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА
Тэл. 68-28-52

## КАВАРНАЯ РЭКЛАМА

З паветра робяць грошы многія мінскія фірмы, якія прапануюць паслугі па перавозцы грузаў у чыгуначных саставах. Не маючы на тое ніякіх правоў, яны актыўна рэкламуюць сваю дзейнасць, запрашаючы заказчыкаў. І, што самае цікавае, ва ўмела расстаўленыя пасткі трапляюць многія. Як паведамілі ў прэс-цэнтры Беларускай чыгункі, гэта рэспубліканскае ведамства не ўпаўнаважвала ні адну мінскую фірму весці з заказчыкам перагаворы, тым больш заключаць з імі дагаворы на дастаўку самых розных кантэйнераў у чыгуначных саставах. Каб займацца такім бізнесам, неабходна мець ліцэнзіі па экспедыцыйнаму абслугоўванню кліентаў і на продаж транспартных паслуг, а іх у навааўленых камерсантаў, вядома ж, няма. Але заказчыкі і не падазраюць, што плацяць двойчы: "камерсанты", запрошваючы цану на перавозку, абавязкова ўлічваюць уласныя інтарэсы. І заказ афармляюць усё ў тым жа дзяржаўным прадпрыемстве, якім і з'яўляецца Беларуская чыгунка. Дык ці не лепш звяртацца да чыгуначнікаў напрамую?

## КРЭДЫТ ЗА БІЗНЕС–ПЛАН

У будучым годзе беларускія прадпрыемствы, якія прапануюць найбольш аптымальныя бізнес-планы па энергазберажэнню, маюць магчымасць атрымаць салідны крэдыт. Менавіта на гэтыя мэты трох беларускім камерцыйным банкам прадаставіць у пачатку 1995 года Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця пазыку ў памеры ад 50 тысяч да 2 мільёнаў долараў ЗША.

Аднак, гэты праект прадугледжвае і шэраг іншых умоў. Так крэдытаваць будуць толькі прыватныя прадпрыемствы або тыя, на якіх ідзе працэс прыватызацыі. Нягледзячы на тое, што пазыка даецца пад гарантыі ўрада Беларусі, Савет Міністраў не мае права ўмешвацца ў дзейнасць камерцыйных банкаў. Больш таго, абсалютна выключаецца магчымасць выкарыстаць атрыманыя такім чынам сродкі на куплю нафты або прыроднага газу.

Канчатковае рашэнне аб выдзяленні крэдыту прадпрыемствам будуць сумесна прымаць беларускія камерцыйныя банкі і ЕБРР. Тэрмін аплаты крэдытаў — 7 гадоў. Стаўка — 13 працэнтаў.

## НОВАЕ ПРАДСТАЎНІЦТВА

Прадстаўніцтва гандлёва-прамысловай палаты Лейпцыга пачало ствараць у Мінску інфармацыйны цэнтр Еўрапейскай Садружнасці, праз які будуць трапляць да нас разнастайныя эканамічныя весткі з краін ЕС, наладжвацца дзелавыя кантакты. На сённяшні дзень прадстаўніцтва ўжо мае інфармацыйную базу даных па ўсёй ФРГ, якая ўключае дзелавыя прапановы германскіх фірм.

## У "ЭЛЕКТРОНІКІ" СВАЯ ЛЯМПАЧКА

Цікавую навінку распрацавалі на мінскім заводзе "Электроніка". Пад складанай назвай "пускарэгулюючая апаратура" (ПРА) хаваецца маленькая прыгожанькая скрыначка, прымацаваная на звычайным лямпачным цокалі. З процілеглага боку — дзве шкляныя трубкі. Уся канструкцыя нагадвае лямпу дзённага святла, якая амаль не перавышае па аб'ёму звычайную, сярэдняга памеру лямпу напальвання. Цокаль мае стандартны памер. Так што навінку можна будзе выкарыстоўваць у любых свяцільнях з традыцыйнымі патронамі. Эканомія электраэнергіі пры выкарыстанні ПРА ў 5 разоў перавышае расход электрычнасці пры рабоце лямпаў напальвання. Працягласць жа эксплуатацыі роўная дзесяці тэрмінам службы звычайных лямпаў.

Навінка прайшла выпрабаванні і дэманстравалася расійскім і замежным спажыўцам. Праз месяц плануецца запусціць серыйную вытворчасць энергазберагальнай навінкі.

БЕЛІНФАРМ.

ЭКАНОМІКА

# На прызбе мінулага не адседзішся

*(Заканчэнне. Пачатак у №№79,80.)*

"Сёння наша ўпраўленне, — падкрэсліў начальнік БРМУ Яўген Кірэйчык, — вядзе работы, звязаныя з тэхпераабсталяваннем цэхаў трактарнага завода. У прыватнасці, калектыў на дзевяноста працэнтаў заняты аднаўленнем асноўных фондаў у службах механіка і энергетыка. Цяпер працуюць у сталеліцейным і цэху малых серый. А ў недалёкай перспектыве наважаны ўшчыльную заняцца гідраўлакавыдаленнем, выканаць аб'ём работ на ўчастку рэгенерацыі фарбаў".

Акрамя ўсяго, у сістэме АТ "Беларусьзаводбуд" ёсць галіновыя падраздзяленні ў Гомелі, Смаргоні, Бабруйску. Створаныя яшчэ зусім нядаўна як малыя прадпрыемствы, яны ўносяць у справы акцыянернага таварыства сваю лепту, рашаюць на месцах пытанні, звязаныя з будаўніцтвам, напрыклад, жылля для рабочых Бабруйскага завода трактарных дэталяў і агрэгатаў і Смаргонскага агрэгатнага завода.

Зрэшты, хочаце верце — хочаце не, а ў гутарцы з намеснікам кіраўніка АТ "Беларусьзаводбуд" Уладзімірам Карнеевым, начальнікам упраўлення БРМУ Яўгенам Кірэйчыкам, начальнікам упраўлення механізацыі і спецыяльных работ Уладзімірам Васьковічам, галоўным інжынерам АТ "Беларусьзаводбуд" Аляксандрам Навуменкам, старшынёй праўлення АТ Уладзімірам Кулікам, галоўным эканамістам Мікалаем Корчыкам ні слова не было сказана аб тым, куды завялі краіну палітыкі, у які тупік загналі жыллёвае будаўніцтва і г.д. Яны расказвалі пра самыя канкрэтныя рэчы — рэканструкцыю ВА "Мінскі трактарны завод", развіццё будаўнічай галіны, перспектывы. З іх выказванняў адчувалася, што людзі, якія кіруюць падраздзяленнямі АТ, даўно і цвёрда ведаюць, што сэнс і кошт у гэтым свеце маюць толькі рэальныя справы. І тут зразумелая іх пазіцыя як божы дзень. Зразумелая і ў тым плане, што будаўнічае падраздзяленне гэта не гандлёвая кропка, дзе можна паскорыць ва ўмовах дзікай інфляцыі абарот капіталу. Жылы дом, вытворчы корпус раней часу не пабудуеш. Тут і падмурак патрэбен, і сцены, а пасля ўжо дбаць пра дах.

"Я цвёрда перакананы, — прадаўжаў намеснік кіраўніка АТ Уладзімір Карнееў, — што цяперашні спад вытворчасці, эканамічны крызіс у рэспубліцы, як і ўсё ў прыродзе, маюць не толькі пачатак, але і канец. Настане той час, калі хмары над прадпрыемствамі, будаўнічымі ўпраўленнямі развеюцца, калі пагоду ў эканоміцы будуць рабіць самі працоўныя калектывы. А людзі зацікаўлены ў парадку. Працэс жа акцыяніравання палепшыў тэхналагічную і працоўную дысцыпліны. Рабочыя паверылі ў рэформы, навучыліся цаніць рабочы час, вучацца ашчадна абыходзіцца з уласнасцю".

Канешне, нельга не пагадзіцца з Уладзімірам Сяргеевічам. Продаж акцый рабочым і служачым — гэта больш чым проста эфектыўны метад павелічэння прадукцыйнасці працы, умацавання дысцыпліны, гэта ў сучасных крызісных умовах выратаванне для грамадства. Сёння яны — рабочыя і служачыя — гаспадары сродкаў вытворчасці, яны вызначаюць тэмпы развіцця будаўнічага трэста (зараз АТ), неабходнасць у набыцці мінімальна патрэбнага абсталявання, матэрыялаў, без якіх нельга працаваць, шукаюць рэзервы зніжэння выдаткаў энергарэсурсаў, пазбаўляюцца ад усяго таго, што так ці інакш уплывае на сабекошт прадукцыі.

"Як вядома, — падкрэсліў у час гутаркі Уладзімір Кулік, старшыня праўлення АТ, — адпаведна з дзеючым палажэннем, палову кошту прыватызуемага аб'екта новы ўласнік абавязаны выкупляць імяннымі прыватызацыйнымі чэкамі. Дык вось я ўпэўнены, што нашы рабочыя, служачыя на іх выкупяць акцыі свайго ўпраўлення, бо тут працэнт дывідэндаў, якія будуць налічвацца, залежыць ад іх жа працы. У прыватнасці, ужо ў трэцім квартале гэтага года плануем налічыць і выплаціць пэўны працэнт дывідэндаў ад атрыманага прыбытку. А ён, прыбытак, паводле нашых разлікаў, павінен скласці суму не менш як 200 мільёнаў рублёў. Пры гэтым на набытых па льготных умовах акцыях, выплаты дывідэндаў будуць праведзены і тым нашым працаўнікам, якія на заслужаным адпачынку.

У гутарцы з Уладзімірам Кулікам, Мікалаем Корчыкам, галоўным эканамістам "Беларусьзаводбуда", я пераканаўся, што ростам колькасці акцый ва ўласнасці калектыву тут зацікаўлены. Калі працэс гэтак і далей пойдзе, то, мабыць, даўняя сацыялістычная мара аб перадачы сродкаў ва ўласнасць працоўных стане куды больш рэальнай, чым можна было меркаваць, а глеба пад новымі рэйкамі эканомікі ў рэшце рэшт стане гарантыяй стабільнасці развіцця не толькі для адкрытага акцыянернага таварыства "Будаўніча-мантажны трэст "Беларусьзаводбуд", але і для ўсіх, хто цяпер перажывае цяжкія часы.

Дарэчы, насцярожанасць адносна таго, што АТ "Беларусьзаводбуд" выходзіць з-пад апякунства, а калектыў яго нібыта аддаляецца ад рашэння праблем ВА "Мінскі трактарны завод", не мае глебы. Тут проста цвяроза ацанілі цяперашнюю сітуацыю ў эканоміцы, складанасці этапу развіцця краіны і вырашылі: пакуль дзяржуласнасць канчаткова не расцягнулі па кутках, неабходна яе абараніць. Сродкі павінны працаваць на аднаўленне эканамічнага патэнцыялу.

Валянцін БАРЫСЕВІЧ.

НЕРУШ

# Грыбнікі сталі... варварамі?

□ Алесь ЛІСІЦКІ

Лета. Яно радуе не толькі цяплом, прыемным адпачынкам каля ракі ці на ўлонні прыроды, але і адорвае кожнага з нас цікавейшымі заняткамі: рыбалкаю, зборам ягад і зёлак, а таксама "ціхім паляваннем" у знаёмых грыбовішчах.

На жаль, на працягу шэрагу апошніх гадоў заўважаецца прыкметная "камерцыялізацыя" інтарэсаў пэўнай часткі насельніцтва, якая імкнецца ўмацаваць свой дабрабыт не высокапрадукцыйнай працай на сваім рабочым месцы — прадпрыемстве ці ва ўстанове, а за кошт багатых дароў палескай прыроды. У выніку чаго ёй наносіцца непапраўны ўрон.

Да прыкладу, па нейкіх прычынах яўна нездаровы размах набыла нарыхтоўка на Палессі грыбоў — лісічак. Але яшчэ больш сумна ад таго, што потым яны ў перапрацаваным выглядзе зусім не трапляюць на прылаўкі мясцовых магазінаў ці да стала гараджан.

Чаму — зразумела. Цераз шматлікіх нарыхтоўшчыкаў-пасрэднікаў грыбы трапляюць за мяжу, прыносячы апошнім вялікія барышы.

А паколькі ўпарадкавання ў гэтай справе пакуль няма, то ў мясцовыя бюджэты ў выглядзе падаткаў заканамерна не трапляюць значныя сумы сродкаў. Яны ж, як сказаў на апошняй сесіі Жыткавіцкага райсавета старшыня райспажыўсаюза А.М.Старацітараў, ляжаць, што называецца, пад нагамі і маглі б быць выкарыстаны з бясспрэчнай карысцю для ўсяго насельніцтва.

Несумненна, такое становішча з нарыхтоўкай лісічак у пераважнай большасці рэгіёнаў рэспублікі будзе ў далейшым абавязкова выпраўлена. Мяркую, адбудзецца збліжэнне ведамасных і мясцовых інтарэсаў на аснове ўзважанага заканадаўства...

Урэшце, узяцца за пяро мяне схіліла зусім не гэтая акалічнасць, а менавіта аповеды відавочцаў аб тым, як ужо на самым пачатку сезона "ціхага палявання" па-варварску вядзецца збор лісічак у лесе. Яны сцвярджалі: ігліца ў барах перагрэбваецца ледзь не граблямі. Не тымі, канешне, якімі вяскоўцы зграбаюць траву ці сена, а да іх падобнымі — мініяцюрнымі, што прызначаны для апрацоўкі глебы на дачных участках. (Раней такія без цяжкасці можна было набыць у любым магазіне гаспадарчых тавараў).

Што гэта сапраўды так, змог надоечы пераканацца на свае вочы. Выхадным днём у пачатку ліпеня па дарозе да бацькоў у ахоўнай зоне Прыпяцкага дзяржаўнага ландшафтна-гідралагічнага запаведніка сустрэў нямала грыбнікоў з ношкай ці ўлегцы. Паміж Азяранамі і Сіманіцкім Млынком, на так званым прыпынку "Горка", стаяла некалькі легкавікоў, гаспадары якіх вялі закуп грыбоў.

Гандаль ішоў бойка.

Крыўдна, што людзі так бяздумна і абыякава ставяцца да аднаго з багацейшых на Лельчыне грыбовішчаў. А яно вельмі ўроднае на баравікі восенню. Сам быў таму сведка, калі ў 1976 годзе працаваў у Сіманіцкай сярэдняй школе. Вучняў тады нельга было зацягнуць і за вушы, каб усадзіць за парты, а ўся вёска за месяц, дарэчы, прапахла грыбамі. Каб паспець пасушыць іх, у многіх хатах двойчы на дзень выпальвалі ў печы...

Сёння, вядома, іншы час. Цяперашнія рэаліі і цяжкасці жыцця пэўным чынам паўплывалі на свядомасць людзей, па-свойму раз'яднаўшы іх і абудзіўшы ў некаторых хваравітую цягу да нажывы і спажывецтва. Гэта не лепшым чынам адбілася і на іх адносінах да прыроды.

Давайце задумаемся над гэтым. Не сакрэт жа, што калі зніжаецца ўзровень духоўна-эстэтычных запатрабаванняў асобы, тады губляецца і самая яе сацыяльная каштоўнасць. Пра гэта некалі добра сказаў яшчэ Ф.М.Дастаеўскі: "Хто не любіць прыроды, той не любіць і чалавека, той не грамадзянін".

*Неабсяжная тэрыторыя, якая курыруецца Гомельскай абласной інспекцыяй рыбаахова. Да таго ж тут рака Днепр у раёне Лоева з'яўляецца граніцай дзвюх, зараз ужо суверэнных, дзяржаў: Беларусі і Украіны.*

*Граза для іх — галоўны дзяржаўны інспектар абласной рыбаахоўнай інспекцыі Мікалай Бесманаў. Прозвішча яго на слыху ў шматлікіх рыбакоў вобласці. І ўжо ведаюць яны цвёрда: калі трапіў з забароненай прыладай лоўлі — літасці не чакай, "дамовіцца" не ўдасца.*

**• Злоўленыя з доказамі злачынства.**
**• Аматар начной лоўлі Уладзімір Чыжык з Рэчыцы таксама не ўцёк ад зоркага вока інспектара.**

ІНФА-КРЫМ

## Страшна перайсці вуліцу

*Асядлаўшы патрыманыя машыны замежнай маркі і "Жыгулі", якія даўно адслужылі сваё за кардонам, новае пакаленне, якое выбрала "Пепсі" і "Мальбара", на высокай скорасці імчыць па вуліцах Гомеля, што задыхаецца ад загазаванасці.*

Тыя, хто павінен па службе сачыць за парадкам на дарозе, а менавіта работнікі Дзяржаўтаінспекцыі, відаць, не звяртаюць асаблівай увагі на гэтыя аўтамабілі.

Уседазволенасць параджае беспарадак. У Гомелі цяпер не толькі страшна перайсці вуліцу, але і хадзіць па тратуарах. Хлопцы, а чамусьці яны трапляюць за руль такіх аўтамабіляў, любяць жанчын і скорасць. Яны могуць ехаць на чырвонае святло, са страшэнным гулам прамчацца каля дзіцячай пляцоўкі, апырскаць граззю пешахода.

Здаецца, што Дзяржаўтаінспекцыя ў абласным цэнтры расфарміравана. Калі і ўдаецца ўбачыць на шумнай цэнтральнай вуліцы рэдкага "даішніка", то абавязкова чамусьці тады, як ён правярае дакументы пакорлівага калгаснага шафёра ці трактарыста. Што і казаць, калі сам начальнік абласнога ДАІ, не спадзеючыся больш на падначаленых, абнёс свой жылы дом турнікетам і знакамі, якія забараняюць праезд, а недалёка — стаіць інспектар. Каля іншых дамоў, выходзіць, ездзіць можна.

БЕЛІНФАРМ.

## Добры ўлоў і нечаканая сустрэча

*Была пятая гадзіна ночы. Міліцыянеры Фрунзенскага РАУС Мінска М.Кандрацьеў і І.Муралевіч на матацыкле ехалі па вуліцы Ціміразева.*

У раёне скрыжавання з вуліцай Муратаўскай на прыпынку аўтобуса стаялі два маладыя мужчыны. Побач з імі на лаўцы ляжалі вялікая сумка і загорнуты ў пакрывала вялікі скрутак. Работнікі міліцыі праехалі міма, не звярнуўшы на іх асаблівай увагі. Але ў памяці ўсё ж такі адбіліся гэтыя рэчы.

Час ранні. Аўтобусы яшчэ не ходзяць. Што могуць рабіць незнаёмцы ў такі час? Супаставіўшы гэтыя факты, міліцыянеры павярнулі матацыкл назад.

На пытанне што ў сумцы і скрутку? — адзін з мужчын адказаў: "Мы сабраліся ехаць на рыбалку, а ў сумцы і скрутку — рыбалоўныя снасці, надзімная лодка і прадукты".

Разгарнуўшы пакрывала, работнікі міліцыі ўбачылі рулоны скуры, у сумцы таксама, а зверху знаходзіліся вяроўка і нож.

Усё аказалася для іх нечаканым. Начныя падарожнікі не паспелі прыдумаць нават праўдападобную версію, адкуль у іх з'явілася гэта скура.

Навяўленых рыбаловаў затрымалі. Хутка яны разам з уловам былі дастаўлены ў аддзел міліцыі. Затрыманымі былі жыхары горада Мінска— грузчык Мінскага вытворчага аб'яднання "Прамень" С. і непрацуючы Т.

Па гэтаму факту адразу была ўзбуджана крымінальная справа. Пры вобыску па месцы пражывання С. былі выяўлены таксама рулоны скуры.

Следствам устаноўлена, што С. і В., працуючы грузчыкамі на складзе № 2 МВАА "Прамень", дамовіліся заняцца раскраданнем скуры са склада. З гэтай мэтай далучылі ў сваю групу нідзе не працуючага Т.

Дзеянні кожнага ўдзельніка групы былі размеркаваны загадзя. Пасля заканчэння рабочай змены В.схаваўся на складзе. Дачакаўшыся закрыцця складскога памяшкання, ён падрыхтаваў больш якасныя рулоны да крадзяжу, і, як было дамоўлена загадзя, роўна ў гадзіну ночы па вяроўцы спусціў яе. Ва ўказаны час за тэрыторыяй фабрыкі знаходзіліся С. і Т. Палавіну спушчанай скуры саўдзельнікі схавалі за мяжой фабрыкі, а палавіну на таксі адвезлі на кватэру С. Калі спрабавалі ўцячы з другой часткай скуры, былі затрыманы работнікамі міліцыі. С. быў знойдзены пазней. Усяго гэтай групай было ўкрадзена 16944 дм квадратных розных гатункаў скуры.

Усе трое прыцягнуты да крымінальнай адказнасці увогуле, за раскраданне дзяржаўнай або грамадскай маёмасці ў асабліва буйных памерах прадугледжана адказнасць ад дзесяці да пятнаццаці гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Але ў даным выпадку злачынцы атрымалі значна менш. Пашанцавала.

Лявон ГРАНКОЎСКІ.

ШКОЛА БЕЗ КАСМЕТЫКІ

# Джэк–патрашыцель Раскольнікаў

### З нататніка звычайнага настаўніка

Настаўніцкі стаж Ігара Міхайлавіча — 15 гадоў. І вучняў сваіх ён ведае як аблупленых. Таму і чакае ад іх штодзённых сюрпрызаў.

Аднаго разу ён прапанаваў ім напісаць працяг "Гора ад розуму". Памятаеце — там расчараваны Чацкі пакідае Фамусава, і на гэтым усё заканчваецца. А што магло быць далей? Школьнікі навыдумлялі самых неверагодных сюжэтаў: дэтэктыўных, любоўных, ваенных, быў нават адзін фантастычны, калі Чацкі і Фамусаў сустрэліся на іншай планеце... А потым падлеткі пісалі сачыненні на тэму "Мой любімы літаратурны герой". Адзін выбраў Чычыкава і растлумачыў гэта вось такім чынам: Чычыкаў ведае, як паводзіць сябе з людзьмі, умее гандляваць, ды й наогул — разумны прадпрымальнік...

Як сцвярджае Ігар Міхайлавіч, вядомыя літаратурныя героі з пункту гледжання сённяшніх школьнікаў зусім не адпавядаюць характарыстыкам, дадзеным у падручніках. Таццяна Ларына і Анегін сучасным падлеткам уяўляюцца надзвычай нецікавымі, нуднымі людзьмі, быццам наогул з іншага свету. А вось Пячорын — "наш мужык", таму што "з бабамі ўмеў упраўляцца". П'ер Бязухаў і Андрэй Балконскі — проста дурні, а Раскольнікаў пачаў цікава, а скончыў... Няўдалы Джэк-патрашыцель.

На перапынках — сапраўдны кірмаш. Гандлююць трусамі, джынсамі, майкамі, красоўкамі, цыгарэтамі, дыскамі, касетамі — усім. Калі падслухаць тыя гутаркі — шмат пра што цікавае можна даведацца. Адзін, напрыклад, зрабіўся класным аўтарытэтам толькі таму, што мог фальшывы залаты пярсцёнак памяняць на сапраўдны японскі магнітафон...

Працаваць з такімі вучнямі — ніякіх нерваў не хопіць. Ад стрэсаў настаўнікі пазбаўляюцца па-рознаму. Ігар Міхайлавіч завіхаецца на дачы. Яшчэ — збірае бібліятэку гістарычных раманаў. Некаторыя яго калегі захапіліся палітыкай. А некаторыя — збіраюцца ў настаўніка працоўнага навучання або фізрука і... п'юць пасля ўрокаў. Бывае, і раніцай выпіваюць. У школе, дзе працуе Ігар Міхайлавіч, у загадчыка гаспадаркі для такіх заўсёды бутэлечка прыхавана. Дырэктар — у курсе, але робіць выгляд, што нічога не ведае. Вучні на вядомы пах таксама не звяртаюць асаблівай увагі. Хіба што ў першы раз могуць пажартаваць, а потым ужо — ніякай рэакцыі. Бо і самі такія ж — старшакласнікі "нападпітку" у школе — не рэдкасць... А што да настаўнікаў-алкаголікаў, звальняюць іх вельмі рэдка — толькі калі гэта надта ўжо кідаецца ў вочы. Ды й то ціха — дырэктар проста прапаноўвае ім "пайсці па ўласнаму жаданню". Зыходзячы з прынцыпу — лепш нецвярозы настаўнік, чым скандал у райана.

Не раз расказваў мне Ігар Міхайлавіч і пра іншыя настаўніцкія "грахі". Да аднаго настаўніка-халасцяка завітала дзесяцікласніца, папрасіла дапамагчы ёй падрыхтавацца да экзамену. Пакуль той шукаў патрэбную літаратуру, вучаніца зусім распранулася, і ў такім выглядзе паўстала перад педагогам... Ён, зусім яшчэ малады, не ўстрымаўся. А праз колькі месяцаў "класная" даведалася ад сяброўак дзяўчыны, што тая зацяжарыла. "Спакуснік" увесь знерваваўся, пакуль разам з дырэктарам угаворвалі яе на аборт. А праз пэўны час "ахвяра" прызналася, што чакае дзіця ад аднакласніка...

Безумоўна, сучасныя школьнікі — зусім не тыя, што раней. Некаторыя выдатнікі патрабуюць зусім не малыя грашовыя сумы з двоечнікаў за тое, што дазваляюць ім спісваць сачыненні і кантрольныя. Ігар Міхайлавіч лёгка вызначае сапраўднае аўтарства (па стылю) — і зніжае адзнакі. А вось настаўнікам матэматыкі, фізікі альбо хіміі — больш складана. Сярод вучняў ёсць такія ўмельцы, што напішуць работу за палову ўрока, а потым толькі робяць выгляд, што працуюць, а кантрольная тым часам "гуляе" па класе...

Як і раней, большасць вучняў фізічныя "метады ўздзеяння" разумеюць лепш за словы. Выкарыстоўваюць іх не толькі мужчыны. Калега Ігара Міхайлавіча, нядаўняя выпускніца універсітэта так ліха раздавала аплявухі і ўпраўлялася з цяжкай драўлянай лінейкай, што даволі хутка на яе ўроках усталявалася проста выдатная дысцыпліна, і настаўніцу нават пачалі прыводзіць у прыклад. Як узор для пераймання па ўменню знаходзіць кантакт з класам. Паводле шматгадовых назіранняў Ігара Міхайлавіча, такіх вучні паважаюць многа больш за тых, хто з-за ўсялякай дробязі выклікае ў школу бацькоў... Усё правільна. Школа — люстэрка жыцця.

Барыс САФРОНЕНКА.

РЭЗАНАНС

# "Задачка для кемлівых"

Так называўся матэрыял Н.Плыткевіч, змешчаны ў "Чырвонай змене" 21.05.94. Рэдакцыя атрымала ліст ад намесніка дырэктара Дэпартамента аўтамабільнага транспарту сп.Дыдышкі. У прыватнасці, у ім гаворыцца, што матэрыялы артыкула разгледжаны сумесна з кіраўніцтвам аўтобуснага парка № 2.

"За дапушчанае 15.05.94 г. прысваенне часткі выручкі ад правозу пасажыраў па маршруце "Капаткевічы—Мінск" вадзіцелям аўтобуса Ечу А.А. і Стасіловічу А.М. аб'яўлена вымова (загад № 277 ад 29.06.94 г.), а таксама з іх утрымана прысвоеная сума па канкрэтнаму факту, выкладзеным ў артыкуле.

Паводле вынікаў праводзімых кантрольных праверак, за бягучы перыяд 1994 г. на ўказаным маршруце было выяўлена чатыры фінансавыя парушэнні, па якіх віноўныя вадзіцелі прыцягнуты да строгай матэрыяльнай і дысцыплінарнай адказнасці.

Намеснік генеральнага дырэктара А.В.МУХІН".

*Сто артыкулаў*

# ДРУГІ ПАДЗЕЛ

□ Алена ФІЛАТАВА, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі

Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 г. знешняя небяспека ўпершыню паказала перадавой часткі грамадства сапраўднае становішча спраў. Яно не адпавядала свабодзе і роўнасці, якімі так ганарылася дзяржава. Урад рэспублікі спрабаваў паправіць становішча шляхам рэформ: павелічэннем войска, дзяржаўных прыбыткаў, узмацненнем каралеўскай улады. У 1788 г. у Варшаве быў сазваны сейм, вядомы ў гісторыі як Чатырохгадовы, або Вялікі. Першыя два гады працы сейма былі малапрадукцыйнымі. Восенню 1790 г. адбыліся новыя выбары, і ўжо ў пачатку 1791 г. прыняты важныя законы: у сакавіку — аб сейміках, у красавіку — аб гарадах, а ў маі — канстытуцыя. Яе аўтарамі з'яўляліся кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, адзін з выдатных палітыкаў свайго часу Ігнацій Патоцкі, а таксама падканцлер і член урада Гуга Калантай.

Канстытуцыя, прынятая 3 мая 1791 г., гарантавала землеўладальніцкаму шляхецкаму саслоўю ўсе "непарушныя" свабоды, прэрагатывы і першынства ў прыватным і грамадскім жыцці. Мяшчанам каралеўскіх гарадоў, якія валодалі нерухомай маёмасцю, даваліся прывілеі, якімі да гэтага часу карысталася толькі шляхта: асабістая недатыкальнасць, набытак зямлі, замяшчэнне ніжэйшых адміністрацыйных і судовых пасад, атрыманне ніжэйшых афіцэрскіх званняў і шляхецтва. Гэты закон распаўсюджваўся і на прыватнаўласніцкія гарады, калі гэтага жадалі іх уладальнікі. Купцам і рамеснікам іншаземнага паходжання, што хацелі жыць у Рэчы Паспалітай, даравася шэраг свабод. Усё гэта ставіла мэтай зберажэнне пануючай ролі шляхецтва, збліжэнне шляхецкага і буржуазнага саслоўяў. У адносінах сялян змяненняў не прадбачылася: іх прымалі "пад апеку права і ўрада". У адрозненне ад старых падыходаў, словам "народ" сталі зваць не толькі шляхту, але таксама мяшчан і сялян.

Канстытуцыя, дэкларуючы свабоду веравызнання, прызнавала ўсё ж традыцыйнае першынство каталіцкай рэлігіі. Больш таго, адступніцтва ад яе разглядалася як здрада. У 1791 г. у Пінску адбылася Кангрэгацыя праваслаўнай царквы Польшчы і Літвы, якая прыняла прынцып яе аўтакефальнасці і стварыла сваю кансісторыю. Сейм зацвердзіў пінскія пастановы.

У дадатковым да канстытуцыі акце "ўзаемнай парукі" зафіксавана поўнае зліццё Кароны і Літвы. Канстытуцыя заканадаўча афарміла тое, што існавала ўжо на самай справе. У другой палавіне XVIII ст. Вялікае княства Літоўскае (ВКЛ) страціла сваю дзяржаўнасць, якую мела з XVI ст., знаходзячыся ў складзе Рэчы Паспалітай. Гэтаму нямала садзейнічала і вышэйшае саслоўе, якое было звязана сваяцкімі сувязямі з магнатамі Кароны, мела зямельныя ўладанні як у княстве, так і ў Кароне, магло займаць высокія дзяржаўныя пасады ў абедзвюх частках рэспублікі. Так, напрыклад, граф Флемінг, які меў зямельныя ўладанні ў Брэст-Літоўскім ваяводстве (ВКЛ) і ў 60-х гадах быў вялікім літоўскім падскарбіем ці міністрам фінансаў, а потым займаў пасаду паморскага ваяводы ў Кароне. Моцны ўплыў польскай мовы і культуры таксама садзейнічаў збліжэнню гэтых дзвюх частак краіны. У XVIII ст. нацыя атаясамлівалася з дзяржавай, на працягу 60—80-х гадоў сэнс слова мяняўся. Існавалі нацыі Кароны і Літвы. Пасля яны аб'ядналіся ў злучаную нацыю, а потым — у польскую нацыю польскай рэспублікі. Існавала такое ж становішча, як у былым Савецкім Саюзе, калі рэспублікі, што мелі свае органы ўлады, свае міністэрствы фінансаў, замежных і ўнутраных спраў, тым не менш, уяўлялі сабой цэнтралізаваную федэратыўную дзяржаву і падпарадкоўваліся Маскве. Так, у Рэчы Паспалітай другой паловы XVIII ст. усё падначальвалася Варшаве, якая вызначала як унутраную, так і знешнюю палітыку краіны.

Канстытуцыя гарантавала шляхецтву Вялікага княства Літоўскага, што кіруючыя органы ўлады адзінай дзяржавы будуць складацца напалову з прадстаўнікоў як з польскіх, так і з літоўскіх зямель. Сейм заставаўся двухпалатным. У палату дэпутатаў уваходзілі прадстаўнікі, абраныя на сейміках. Члены другой палаты складалі Сенат: ваяводы, кашталяны, епіскапы, міністры. Кароль страціў права зацвярджэння законаў, ён павінен быў толькі склікаць сейм і валодаў правам заканадаўчай ініцыятывы. Каб ліквідаваць выбары караля, якія выклікалі сярод магнацтва барацьбу за ўладу і давалі магчымасць іншаземным дзяржавам умешвацца ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай, уводзілася наследаванне трона. Вярхоўная выканаўчая ўлада даручалася Варце законаў, у склад якой уваходзілі: кароль (старшыня), прымас (як кіраўнік духавенства), старшыня Адукацыйнай камісіі і 5 міністраў.

З 1789 г. тэрытарыяльныя пытанні зямель і ваяводстваў адносіліся да кампетэнцыі ваенна-цывільных камісій парадку, што налічвалі 15 камісараў, якіх кожныя два гады выбіралі на сейміках. Камісіі займаліся рэкрутамі, стварэннем ваенных складоў, забеспячэннем арміі, выдачай пашпартоў і інш. Таксама былі створаны крымінальныя суды.

Канстытуцыя 3 мая 1791 г. умацоўвала дзяржаўную ўладу і абмяжоўвала магнацкую алігархію. Дзейнасць і рашэнні чатырохгадовага сейма азначалі пералом у палітычным ладзе дзяржавы.

Але магнацтва рэспублікі і некаторая частка шляхты (а беззямельная шляхта па новай канстытуцыі пазбавілася выбарчых правоў) адмоўна аднесліся да новай канстытуцыі. Яны не жадалі страчваць свае старыя шляхецкія вольнасці, іх не цікавілі ні новыя школы, ні павелічэнне колькасці войска, ні новыя падаткі.

У маі 1792 г. у друку з'явіўся праект акта новай канфедэрацыі, падрыхтаваны ў Пецярбургу. Ён быў надрукаваны маршалкам канфедэрацыі генералам кароннай артылерыі Станіславам Феліксам Шчэсным-Патоцкім у мястэчку Тарговіцы (Украіна). Галоўнымі пунктамі гэтага дакумента з'яўляліся вольнасць і роўнасць усёй шляхты, ахова каталіцкай рэлігіі, цэласнасць межаў Рэчы Паспалітай, зварот рэспубліканскага праўлення, адмена канстытуцыі 3 мая, аказанне даверу расійскай дапамозе. Польны каронны гетман Севярын Ржэвускі, вялікі каронны гетман Францішак Ксаверый Браніцкі і Станіслаў Шчэсны-Патоцкі ад імя канфедэрацыі звярнуліся да Кацярыны II з просьбай аб ваеннай дапамозе: "Польская нацыя, злучаная ў адну агульную канфедэрацыю, звяртаецца да цябе, як да бажаства, спрыяльнага для яе свабоды, і заве цябе да сябе на дапамогу".

Расійскі пасол у Варшаве Я.І. Булгакаў падаў ураду дэкларацыю аб складанні генеральнай канфедэрацыі і ўступленні расійскіх войск у Рэч Паспалітую для абароны "даўніх правоў і вольнасцей".

Украіну занялі войскі М.В. Кахоўскага, на тэрыторыю ВКЛ быў высланы корпус генерала М.Н. Крэчэтнікава. 2 красавіка 1792 г. Кацярына II загадала Крэчэтнікаву падзяліць галоўны корпус на дзве часткі, з якіх адна, сабраная каля Полацка, павінна ісці "праз Глыбокае, Паставы кароткім шляхам да Ліды, а потым — да Гродна. Другая — з Талачына, праз Мінск, Навагрудак таксама ў Гродна". Харчаванне для войска забяспечвалі ваяводствы па ўзгадненню з вялікім літоўскім канцлерам Аляксандрам Сапегам і гетманам Шыманам Касакоўскім. Канцлера Сапегу імператрыца прапаноўвала на пасаду маршалка літоўскай часткі Тарговіцкай канфедэрацыі, "по уважению богатства его и сильных связей в сем княжестве". Акрамя таго, Кацярына II дала Крэчэтнікаву "списки сенаторов и послов сеймов, на коих положиться можно". Сярод іх інфлянцкі епіскап Касакоўскі, жмудскі епіскап Гедройц, трокскі кашталян Плятэр, віцебскі ваявода Касакоўскі, мсціслаўскі ваявода Хамінскі. 12 мая Крэчэтнікаў пісаў Кацярыне II, што "князь Сапега приемлет на себя быть маршалком конфедерации литовской, но объявить себя до тех пор не хочет, пока сам он и часть его имений не будут прикрыты российскими войсками".

Пры дапамозе сямейства Касакоўскіх на тэрыторыі Літвы пачалі ствараццa павятовыя канфедэрацыі: Рэчыцкая, Віцебская, Слонімская, Аршанская, Полацкая, Браслаўская, Мінская, Лідская, Ваўкавыская. 4 мая Крэчэтнікаў паведамляў Кацярыне II: "Сих конфедераций маршалками избраны: первой —

